


№ 29 (57) 8—14 верасня 1993 г. Кошт 5 рублёў

# ДЗЕНЬ БЕЛАРУСКАЙ ВАЙСКОВАЙ СЛАВЫ—93



‡

*8 верасьня 1514 года ў бітве пад Воршай войска Вялікага Княства Літоўскага на чале з гэтманам Канстанцінам Астрэжскім поўнасьцю разграміла вялізнае маскоўскае войска. уратаваўшы тым самым старабеларускую дзяржаву ад панаваньня ўсходняга суседа.*

‡

*ВІНШУЕМ ВАС З 479-МІ ЎГОДКАМІ*
*слаўнай падзеі ў гісторыі нашай бацькаўшчыны!*

## У ГАЗЕЦЕ:



## На іхным баку быў сам Бог

**Пад канец XV ст. Масква аб'яднала значную частку вакольных земляў і княстваў. Ня меньш вялікая частка ўсходнеславянскіх тэрыторый склала старабеларускую дзяржаву—Вялікае Княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае альбо была пад ягоным пратэктаратам. Вялікія князі маскоўскія ўключылі ў свой тытул найменьне «гаспадар усея Русі», чым адкрыта заявілі аб прэтэнзіі на тыя землі, што сёньня складаюць этнічную Украіну і Беларусь. Адносіны паміж Маскоўскай дзяржавай і Вялікім Княствам Літоўскім сталі вельмі напружанымі.**

У сьнежні 1512 года Васіль Трэці штурмаваньнем Смаленска распачаў новую маскоўска-літоўскую вайну. Маскавітам удалося захапіць Смаленск, але толькі ў 1514 годзе, пасьля чаго іхняе 80-тысячнае войска пайшло ўглыб Вялікага Княства Літоўскага пад Воршу і Друцак. Супрацьстаяла агрэсару больш чым 30-тысячнае войска Вялікага Княства Літоўскага і Каралеўства Польскага, якое пад зьверхнасьцю гэтмана найвышняга літоўскага князя Канстанціна Астрожскага таксама пайшло пад Воршу. Астрожскі вырашыў даць бой, маючы разьлік на патрыятызм ваяроў, што баранілі сваю зямлю ад усходняга прыхадня. У войску Кароны і Княства за перамогу маліліся праваслаўныя і каталіцкія сьвятары.

Бітва пачалася а 9 гадзіне ў пятніцу, 8 верасьня 1514 года. «Гэй, вось цяпер наперад, дзеці!—зьвяртаўся да падначаленых у часе бітвы Астрожскі.—Цяпер будзьце мужамі, няхай кожны адновіць дзельнасьць, бо шэрагі непрыяцеля ўжо паблыталіся. На нашым баку стаіць сам Бог і дадае нам зь неба абарону». Пераломy ў бітве нашыя продкі дамагліся, дзякуючы ўжытку Астрожскім манэўру. Коньніца Кароны і Княства раптоўна спыніла сваю контратаку, а потым па загадзе найвышняга гэтмана пачала адступленьне. Масква кінулася наўздагон. Нечакана ўся армада маскоўскіх вершнікаў аказалася перад артылерыяй і пяхотай, што прыхаваліся на ўскраіне лесу і даўно прагнулі моцнага залпу. Маскоўская кавалерыя была расстраляная, рэшткі абодвух флангаў арміі маскавітаў кінуліся наўцёкі. Войска польскае і літоўскае пасьпяхова перасьледавала. Перасьлед маскоўцаў адбываўся на працягу васьмі літоўскіх міляў (60 км). Страты маскоўскага войска палоннымі перавысілі пяць тысяч чалавек. У палон трапілі галоўныя ваяводы маскоўскія І. Чаляднін і М. Булгакаў-Голіца, 8 вярхоўных ваяводаў, 37 начальнікаў меньшага рангу, 2 тысячы дзяцей баярскіх і больш за дзьве тысячы іншых воінаў. 20 тысяч трафейных коняў і палова вайсковага абозу былі параздаваны пераможцам. Сярод вайсковых трафеяў былі ўсе маскоўскія сьцягі і агнястрэльная зброя.

Страты саюзнага войска Канстанціна Астрожскага былі невялікія. Загінулі чатыры знатныя паны, сярод іх Збароўскі і Слупіцкі, а рыцараў—каля пяцісот чалавек. Простых жаўнэраў і шляхты загінула блізу чатырохсот. Параненых было вельмі многа.

На наступны дзень пераможцы сьвяткавалі сваю заслужаную перамогу. Былі адслужаны праваслаўныя і каталіцкі малебны. За ўрачыстым абедам у прысутнасьці палонных маскоўскіх ваяводаў Канстанцін Астрожскі павіншаваў сваіх ваяводаў, ротмістраў і рыцараў зь перамогай. Трэцяга сьнежня вялікі князь літоўскі, рускі і жамойцкі, кароль польскі Жыгімонт Казіміравіч наладзіў у Вільні ўрачысты прыём у гонар князя К. Астрожскага і рыцараў-пераможцаў. Пра перамогу пад Воршай стала вядома ва ўсёй Эўропе. Дуброўна, Мсьціслаў і Крычаў былі вернутыя беларускай дзяржаве. Смаленска забраць назад не ўдалося.

**Паводле публікацыі доктара гістарычных навук Анатоля Грыцкевіча падрыхтаваў М. ПАЎЛАЎ.**

**Ірына ІГНАЦЕНКА**

Мне паглядзець навокал жудасна,
Ідзем няведама куды.
Дай Божа літасьці ды мужнасьці
Пазьбегнуць лютае бяды.

Чаму маўчыш ты, падняволены,
Як зьдзекваецца «старший брат»?
За тое, што мы заняволены
Мо сам, народзе, вінават?

Радзіму, мову зьняважаючы
Ты годнасьць растаптаў сваю.
Ды згодна галавой ківаючы
Глядзіш, як гонар прадаюць.

Ды веру сьвята ў адзінае:
Жыве «крывіцкі вольны дух».
Ляц[illegible]ж, Пагоня, над Радзімаю
Ды ўздымай народны рух!

**Анатоль КАРЧЭЎСКІ**

## Прыхільнікам двухмоўя

Прыхільнікі двухмоўя ў нашай
хаце,
спыніце, калі ласка, лямант свой,
бо ВАША мова—нам чужая маці,
чужая маці пры сваёй жывой.

Вы нашу Мову з хаты праганялі
не семдзесят, а ўсе семсот гадоў.
Таптালі, білі і забараняялі—
рабілі з беларусаў вы рабоў.

І зараз вы сядзіце ў круглай зале—
пытанні вырашаеце свае...
А наша Мова, дзесьці на вакзале,
уся ў слязах пра Беларусь пяе...

Вы пра двухмоўе верашчыце
хорам—
аж холад прабягае па спіне.
Такіх людзей, як вы, вялікі сорам
ніколі ў жыцці не скалане.

## Ніхто не перашкодзіў

Уначы з 28 на 29 жніўня ля вёскі Гацькаўшчына пад Дуброўна адспяваў традыцыйны фестываль бардаўскае песні, прысвечаны чарговым угодкам бітвы пад Оршаю ў 1514 годзе. На свята з'ехаліся госці з Оршы, Віцебска, Менска, Магілёва.

**М. КАЛІНОЎСКІ.**

## Абяцанкі—цацанкі?

**Афіцыйна імпрэза звалася «ўстаноўчы сход абласнога аддзялення Саюза афіцэраў Беларусі». Месцам ейнага правядзення стаў Віцебскі гарвыканкам.**

Сход сабраў [illegible] дзесяткаў вайскоўцаў і «запаснікоў». Мерапрыемства адкрыў прадстаўнік рэспубліканскага кіраўніцтва Саюза афіцэраў адстаўны генерал з Менска. Сваімі праклёнамі ў адрас Шушкевіча, Ельцына, Гарбачова і заклікам адрадзіць «вялікую й магутную краіну» цывілізаваным шляхам (дзякуй, што не танкамі!) ён задаў тон усяму сходу. Таму не варта пераказваць набіўшыя аскоміну лямант ды ідэі таварышаў «бывшевиков».

Спынюся толькі на абяцанні «капітана запасу і журналіста» Саратокіна. Паводле яго, «паліцэйскі сцяг» (г. зн. бел-чырвона-белы) перастане быць дзяржаўным. Адпаведная праца вядзецца ў Вярхоўным Савеце.

Увага, якая надавалася палітычным пытанням, абяцанкам-цацанкам адмяніць сучасную сімволіку краіны, асуджэнню святкавання Дня беларускае вайсковае (!) славы, сведчыць аб тым, што сацыяльныя праблемы другасныя для Саюза.

**А. БУКАЧОЎ.**

# БЕЗ МІНУЛАГА НЯМА БУДУЧЫНІ

У ВІЦЕБСКІ ГАРВЫКАНКАМ

## Прапанова

8 верасьня 1514 года войска Вялікага Княства Літоўскага пад кіраўніцтвам гэтмана К. Астрожскага разьбіла войска агрэсара—80-тысячную армію Вялікага Княства Маскоўскага. Гэтай перамогай быў абаронены дзяржаўны суверэнітэт старабеларускай дзяржавы, Вялікага Княства Літоўскага. Дзень 8 верасьня на поўным праве лічыцца Днём беларускай вайсковай славы.

Для сьвяткаваньня гэтай даты Віцебская Рада БНФ «Адраджэньне» і клуб выбаршчыкаў «За дэмакратычныя выбары» стварылі аргкамітэт. З мэтай умацаваньня ў сьвядомасьці віцяблянаў ідэі беларускай дзяржаўнасьці аргкамітэт прапануе адзначыць гэтую дату сумесна зь віцебскімі гарадскімі ўладамі на Плошчы Волі 8 верасьня 1993 года з 18 да 20 гадзінаў. Для гэтага неабходна:

—дэлегаваць прадстаўнікоў гарадской улады ў аргкамітэт

—для рэкламы праінфармаваць гараджанаў пра мяркуемае сьвяткаваньне праз гарадскую газету «Витьбичи»;

—наладзіць у гэты час на Плошчы Волі выязды гандаль;

—з дапамогай Віцебскага гарнізона зрабіць сьвяточны феерверк.

Калі выканкам палічыць немэтазгодным удзельнічаць у гэтым мерапрыемстве, аргкамітэт правядзе сьвяткаваньне гадавіны бітвы пад Оршай больш сьціпла.

**По даручэньні Аргкамітэта**
**У. ПЛЕШЧАНКА,**
**сябра Віцебскай Рады БНФ «Адраджэньне»,**
**Б. ХАМАЙДА,**
**старшыня клуба «За дэмакратычныя выбары».**



ВИТЕБСКИЙ ГОРОДСКОЙ СОВЕТ НАРОДНЫХ ДЕПУТАТОВ

ИСПОЛНИТЕЛЬНЫЙ КОМИТЕТ

РЕШЕНИЕ

От 26.08.1993 г. № 397

О запрещении празднования дня 8 сентября
в г. Витебске

Рассмотрев предложение граждан В. Плещенко и Б. Хамайды о праздновании дня 8 сентября в г. Витебске, исполком городского Совета отмечает, что день 8 сентября не имеет традиций в Республике Беларусь и г. Витебске, празднование его антизаконно, возбуждает национальную вражду и осложняет отношения с Россией.

Учитывая вышеизложенное и в целях избежания антиконституционных действий, раскола и противостояния в обществе, нарушений общественного порядка, исполнительный комитет Витебского городского Совета народных депутатов р е ш и л:

1. Не давать разрешение на празднование дня 8 сентября на территории г. Витебска, как противоречащее действующему законодательству Республики Беларусь.

2. Отделам культуры, народного образования горисполкома, редакции газеты «Витьбичи» (Кибисов, Пресняков, Тулинова) организовать работу по разъяснению исторической правды о битве под Оршей 8 сентября 1514 года.

**Заместитель председателя горисполкома** — **В. Лапинский**

**Зав. управляющего делами исполкома** — **В. Адотик**





**Традыцыі не было!**
**Святкаванне Дня беларускай вайсковай славы 8 верасня 1992 г. на пляцы Волі ў Віцебску.**

# Уклаліся ў 600 секунд, або Як адмянілі бітву

**Напрыканцы жніўня Віцебскі гарвыканкам сярод іншых пытанняў (дакладней, пасля іншых) разглядзеў прапанову, што паступіла ад мясцовых дэмакратаў. Віцебская Рада БНФ і клуб выбаршчыкаў «За дэмакратычныя выбары» заклікалі гарадскія ўлады далучыцца да святкавання 479-ых угодкаў бітвы пад Оршаю.**

Але выканкамаўцы вырашылі адмовіць, спаслаўшыся на ўрадавы цыркуляр, падпісаны небезвядомым сп. Данілавым. На ягоную думку, свята 8 верасня патрэбна адно толькі «нешматлікай апазіцыі», каб пасварыць Беларусь з Расіяй, раз'яднаць два «братнія народы». Данілаў спасылаецца на расійскага пасла пана Сапрыкіна, які перасцерагае, што святкаванне перамогі ў Аршанскае бітвы можа азмрочыць адносіны між нашымі краінамі. (Тут, мусіць, варта нагадаць пытанні, што сталі банальнымі: ці не пагаршае адзначэнне 9 траўня расійска-нямецкім стасункам? Або святкаванне перамогі ў вайне 1812 года—адносінам паміж Францыяй ды Расіяй?) Аўтар урадавай паперы загадвае кіраўнікам мясцовых уладаў не адзначаць свята беларускае вайсковае славы. І нават... прыказвае КДБ узмацніць пільнасць 8 верасня.

Але вернемся да нашых... прабачце, віцебскіх чыноўнікаў. Адзін з іх так «глыбока» вывучыў беларускую гісторыю, што горача даводзіў гарвыканкаму думку пра тое, што бітвы (і, адпаведна, перамогі) не было. Усё выдумка БНФ. Было шмат войнаў, у якіх Вялікае Княства Літоўскае цярпела паражэнні ад Масковіі, а перамогі над рускімі не здараліся...

Але годзе... «Гістарычнае» абмеркаванне не заняло й дзесяці хвілін.

**А. БУКАЧОЎ.**

## Першаму намесніку старшыні Віцебскага гарвыканкама сп. Лапінскаму В. К.

### Шматшаноўны Вячаслаў Кірылавіч!

У адрас выканкама намі былі скіраваныя прапановы па святкаванню 8 верасня—Дня вайсковае славы—на беларускай мове. Рашэнне ж па дадзенаму пытанню, як ні дзіва, было сфармулявана на рускай мове.

Ці не здаецца Вам, Вячаслаў Кірылавіч, што адказ у такой форме грамадзянам, якія звяртаюцца ў орган улады на дзяржаўнай мове, а атрымліваюць адтуль адказ на мове зусім іншага гаспадарства, не прыняты ў сусветнай практыцы і з'яўляецца проста нонсенсам? Не гаворачы ўжо пра тое, што гэты факт абразіў нас як грамадзян Рэспублікі Беларусь, зняважыў нашыя нацыяльныя пачуцці.

Дазвольце, калі ласка, не паверыць членам выканкама, што прынялі гэтае рашэнне, і Вам асабіста, што вы дзейнічаеце ў адпаведнасці з існуючым заканадаўствам, калі самі ж парушаеце закон Рэспублікі Беларусь аб мовах.

Паводле арт. 3 згаданага закона «...Рашэнне па сутнасці звароту афармляецца на беларускай мове. Адказ грамадзяніну даецца на беларускай мове або, па яго жаданні, у перакладзе на рускую мову».

Наколькі нас не падводзіць памяць, такога жадання мы не выказвалі. З гэтае нагоды змушаныя, на жаль, вярнуць дадзены дакумент у выканкам, і настойваем на афармленні адказу па нашаму пытанню на дзяржаўнай мове Рэспублікі Беларусь.

**Дадатак:** 1 ліст.

**У. ПЛЕШЧАНКА,**
**Б. ХАМАЙДА.**

P.S. Калі Вам не цяжка і Вы знойдзеце на гэта час, удакладніце, калі ласка, п. 1 Вашага рашэння: якія артыкулы, якога заканадаўства (якой краіны?) мы можам парушыць, святкуючы чарговыя ўгодкі падзеі у гісторыі Беларусі.

## Пракурору Віцебскай вобласці сп. Шахметаву М. С.

### Заява

26 жніўня г. г. намі была пададзена ў гарвыканкам прапанова аб святкаванні ўгодкаў гістарычнай падзеі для народа Беларусі —перамогі пад Оршай 8 верасня 1514 года.

Выканкам сваім рашэннем забараніў святкаванне, матывуючы тым, што яго правядзенне супярэчыць «дзеячаму заканадаўству Рэспублікі Беларусь».

Просім даць прававую ацэнку рашэння выканаўчага камітэта. Калі яно не адпавядае закону, спыніце антызаконную дзейнасць службовых асоб гарвыканкама.

**Дадатак:** на 2 лістах.

**У. ПЛЕШЧАНКА,**
**Б. ХАМАЙДА.**

# Ці варта святкаваць перамогу?

У некаторых чытачоў можа ўзнікнуць шэраг пытанняў, звязаных са святкаваннем перамогі пад Оршаю. Навошта ўвогуле было змагацца, і што народ атрымаў у выніку перамогі? А можа народы Вялікага Княства Літоўскага настолькі прыгняталіся, што адны толькі маскоўскія цары маглі прынесці ім волю ды заможнае жыццё? Ці мо махровыя нацыяналісты-ліцвіны чынілі генацыд у адносінах да іншых народаў, і войска Масквы несла свабоду прыгнечаным ды пакаранне нацыяналістам? А мажліва, маскоўскія ўладары кіраваліся боскай воляй, каб стварыць належныя ўмовы для вернікаў розных канфесій?

Адказы на ўсе гэтыя пытанні можна знайсці ў дакументах, што распавядаюць пра захоп Полацка войскамі ўсходняга суседа ў 1563 годзе.

Ваявода Станіслаў Давойна нарабіў шмат памылак пры абароне, і цар Іван IV (Жахлівы) завалодаў горадам.

...У здранцвелым ад жаху месце чуліся лямант, перадсмяротныя крыкі ды рогат п'яных заваёўнікаў. Стральцы на вачах у мужоў і бацькоў гвалцілі паважных кабет і маладзенькіх дзяўчат. Тым, хто кідаўся іх бараніць, сціналі бярдышамі галовы. Захопнікі панішчылі тутэйшае рыцарства, якое адмовілася перайсці на службу да тырана. Палоннаму іншаземцу-найміту Андрэю Гесэ, што не пажадаў служыць Маскве, Іван Жахлівы загадаў адстрэліць абедзьве рукі па локаць, выкалаць адно вока і выпаліць палову барады. Пакалечыўшы, трымаў яго з сям'ёю ў турме да смерці.

Пскоўскі летапіс гаворыць: «Которыя были в городе люди жидове, и князь великий велел их с семьями в воду речную вметали и утопили их». Патапілі католікаў, шаблямі пасеклі манахаў-бернардзінцаў, забілі братоў-дамініканцаў. Іхныя храмы былі спалены.

Той жа лёс напаткаў навакольныя вёскі. Тых, хто засталіся ў жывых (50 тысяч), у тым ліку дзяцей і жанчын, паланілі, і распранутых ды галодных пагналі ў Масковію. Сотні з нашых землякоў загінулі ў дарозе.

У катаваннях і забойствах непасрэдна ўдзельнічаў і Іван Чацвёрты. Ён замацоўваў грамату пячаткай. З рук капала кроў. Падданым было забаронена на гэтае глядзець...

Падобна на тое, што тыя, хто сёння супраць святкавання бітвы пад Оршаю, шкадуюць аб тым, што ў Вялікім Княстве засталіся жыць людзі, што не былі знішчаны беларускія паселішчы. Яны, магчыма, шкадуюць, што маскоўскім царам не ўдалося забіць усіх мужчын і жанчын, ад якіх нарадзіліся вольныя людзі?

Увесь час безупынна яны правакуюць міжнацыянальную варожасць, спадзеючыся ў выпадку ўдачы заклікаць сучасных Іванаў Жахлівых з Масквы для замацавання крывавага камуністычнага рэжыму.

Жудасная гэта ўлада. І яна сапраўды вынішчыць у Беларусі ўсё жывое, калі дазволіць ёй кіраваць далей.

Яшчэ адной прычынай таго, што кіруючая наменклатура імкнецца замаўчаць, забараніць свята воінскага майстэрства Астрожскага, з'яўляецца тое, што яна сёння больш, чым пажараў, паводак баіцца узнікнення на палітычнай арэне сучасных Астрожскіх. Маладыя таленавітыя кіраўнікі маглі б хутка вывесці краіну з бездані крызісу, куды загнаў яе передавы атрад «самых умных». Але тады для апошніх наступіць палітычная смерць.

(Заканчэнне на 3-й стар.).

# Набяромся цярпення

Уважліва азнаёміўшыся з прыведзенымі дакументамі, я адзначыў некаторыя аспекты гэтай праблемы.

Па-першае, не зразумела, якому заканадаўству супярэчыць намер арганізатараў адзначыць гістарычную дату. Закону аб культуры альбо закону аб народнай адукацыі? Ці, можа быць, супярэчыць закону аб сродках масавай інфармацыі, які Вярхоўны Савет ніяк не прыме? Ва ўсялякім выпадку агульная расплывістая фраза «дзеючага заканадаўства» не пераконвае разважлівага чытача.

Па-другое, святкаванне забараняецца на тэрыторыі горада Віцебска. Але паняцце тэрыторыі даволі шырокае. Што ў ім маецца на ўвазе? Вуліцы, плошчы, падваротні? Але жылыя дамы, кватэры, забаўляльныя ўстановы таксама знаходзяцца не за рысай места.

Напрыклад, як быць законапаслухмянаму грамадзяніну,

(Заканчэнне на 3-й стар.).

## Набяромся цярпення

(Заканчэнне. Пачатак на 2-й стар.).

калі ў яго з'явілася жаданне адсвяткаваць гэтую дату ў сямейным кругу? Ці ў рэстаране? Гэта ж таксама не за межамі Віцебска.

Ці можна ў гэты дзень запрашаць да сябе гасцей? І якія тосты дазволена прамаўляць? А што рабіць у самы непадыходзячы момант, калі ў тваёй руцэ хрушчоўская шклянка, напоўненая да берагоў празрыстай «Рускай», калі наскочыць участковы і спытае: «З якой нагоды банкет»? Шчыра пакаяцца? Ці спаслацца на імяніны цешчы?

А калі хтосьці з сучасных дзяцей-акселератаў, на хвілю вырваўшыся з-пад бацькоўскай апекі, нечакана выбежыць у двор свайго дома, размахваючы дзіцячым сцяжком, на якім напісаны словы: «Бітва пад Оршай 8 верасня 1514 года»? Якія вынікі ў святле рашэння выканкама чакаюць, у такім выпадку, ягоных бацькоў?

І, урэшце, апошняе. Дзеянне цыркуляра па часе. Пэўна, забарона распаўсюджваецца толькі на сёлетняе 8 верасня? Ці можа да завяршэння тэрміну паўнамоцтваў цяперашняга складу выканкама? Зусім жа няшмат засталося. А мо для ўласнага спакою закрэсліць у календары дзень 8 верасня? Няхай адразу пасля 7-га наступіць дзевятае. Менш праблемаў будзе.

Пытанні, пытанні, пытанні... Яны не пустыя для тых, хто паважае сучасную ўладу ды сур'ёзна ўспрымае ейныя рашэнні.

Я мяркую, што адказныя асобы, указаныя ў выканкамаўскай паперы, змогуць пакласці праўду-матку на стол, дадуць адказы і на йншыя пытанні. Так што набяромся цярпення, паважаны чытач.

**Барыс ХАНОНАЎ.**

## Ці варта святкаваць перамогу?

(Заканчэнне. Пачатак на 2-й стар.).

Бо сучасны Астрожскі разам з сацыяльнымі пераўтварэннямі здолее хутка вярнуць «прыхватызаванае», утаймаваць мафіёзі і карумпаваную наменклатуру.

Вось чаму яны ачмураюць людзей «-ізмамі», забараняючы свята герояў свайго народа. І, адначасова, ідэалагічнымі дубінкамі гоняць людзей у Саюз хаця б з дваіх. Прыклад маскоўскіх карупцыянераў з кіруючай эліты, якія «скідваюць» мільёны долараў на асабістыя рахункі ў замежных банках, даводзіць іх да вар'яцтва. Ад таго, што яны зараз не могуць гэтае зрабіць таксама, ды ад таго, што нейкія дэмакраты патрабуюць выконваць законы, ведаць дзяржаўную мову, шанаваць нацыянальных герояў.

У іх свае героі. Тыя, якія спачатку ледзь не ўвесь «мир до основанья» разбурылі, а потым накіравалі сваіх нашчадкаў на стварэнне свайго карумпаванага свету і адпаведных яму герояў.

**Уладзімір ПАДГОЛ.**

P.S. Калі гэта для іх не свята, дык што ж для іх свята? 7 лістапада? 1 траўня 1986 года, калі выводзілі на дэманстрацыю людзей і Чарнобыль пасыпаў попелам галовы дзяцей?







Калісьці ж надыдзе той час, што стане сапраўдным святам старое Оршы — дзень, калі сярод зруйнаванае славы і гонару яе зямлі паўстане велічны помнік, што ўвасобіць у сабе падзеі 8 верасня 1514 года.

Сёння ж Орша мала нагадвае гістарычны горад. Палітыка сцірання знакаў адметнасці сваёй зямлі дзеля чужых інтарэсаў зруйнавала яе спрадвечны гонар, ператварыла адзін з непаўторных куткоў Беларусі ў безаблічную правінцыю, дзе да гэтае пары пануе тыпова савецкі парадак. У руінах і занядбанні аршанскія ваколіцы. Зямля, дзе гартавалася наша слава, дзе славуты гетман Кастусь Астрожскі здабыў ці не найвышэйшыя свае лаўры, ляжыць у сне і запусценні.

Гатуючы свой невялікі фотарэпартаж аб гістарычных прыкметах Оршы і яе разлогаў, спыніўся на трох здымках месцаў, дзе некалі давялося пабываць.

На першым шаноўны чытач бачыць рэшткі Аляксееўскай царквы 1864 г. у вёсцы Смальяны, якая больш вядома другімі руінамі — замка XVII стагоддзя. Ягоную фатаграфію «Выбар» змяшчаў у адным з апошніх нумароў. Смальяны, між іншым, маюць прамое дачыненне да роду князёў Астрожскіх, якім належалі ў XVI ст.

Другі здымак — Ільінская царква ў самой Оршы. Гэта, бадай, самы прыкметны знак гістарычнасці тысячагадовага горада, але далёка не лепшы з яго спадчыны, бо быў пабудаваны толькі ў 1880 годзе ў стылі, занесеным на нашыя землі ўладарнаю Масквою (ці не таму і ацалеў?).

На трэцім — фрагмент выдатнага помніка драўлянага дойлідства з Барані (пад Оршаю) — Спаса-Праабражэнскае царквы 1704 г., якога, на жаль, у старым месцы ўжо няма, бо дагэтуль ляжыць разабраным экспанатам музея-запаведніка пад Менскам, вывезеная за «непатрэбаю» Барані ў 1988 годзе. Такія прыкметы аршанскае забытае гісторыі.

Цяпер многа гаворыцца аб нацыянальнай свядомасці. Свядомасць — гэта «Я», «МЫ», знакі нашае адметнасці, непадобнасці на іншых. Знакі нашага Свайго шляху ў свеце. Страта свядомасці — згуба Памяці. Чалавеку ці народу, што страціў памяць, нічога не належыць, бо яго быццам няма. Усё ягонае раскрадаецца іншымі, усё, што нагадвала аб Памяці, ператвараецца ў руіны. І слава, і гонар, і людзі, якія складалі нацыю.

Дзякуй богу, мы спыніліся на краю бездані. Мы вяртаемся да Сябе. Вяртайся і ўзнімайся з забыцця і ты, Орша, бо і твая слава патрэбна ўсім нам.

**Алесь МЕМУС.**
**Фота аўтара.**

## Хоць Юліем Цэзарам назавіцеся...

**У апошні час саўмінаўская прэса ўсё актыўней прапагандуе мыльную бурбалку — Кангрэс народаў Беларусі. Штучна ствараемае мерапрыемства нясе яўны канфрантацыйны сэнс, якім бы чынам «нашы» «чырвоныя» не выдавалі б чорнае за белае.**

Па-першае, мэтай «кангрэса» з'яўляецца ўсенародная мабілізацыя. Мясцовыя народнарухаўцы, як у мінулым замежныя інтэрфронтаўцы, добра сябе адчуваюць толькі тады, калі карыстаюцца вайсковай тэрміналогіяй, бо нездарма першыя ролі ў іх выконваюць адстаўленыя армейцы. І мара іх — вяртанне мінулага, калі імперыя нагадвала мілітарызаваны лагер, што наводзіў жах на ўвесь свет.

Па-другое, вельмі абразліва гучаць словы клопатаў аб прадухіленні нацыянальнай катастрофы ад нашчадкаў таталітарнай ідэалогіі, якія абяцалі зліць усе нацыі ў адну, выгадаваць асаблівага чалавека — «хомо савецікуса». Звышцынізмам гучаць гэтыя словы з вуснаў тых, хто робіць усё, каб знікла мова беларусаў, хто аблівае брудам патрыятычныя пачуцці грамадзян Беларусі.

Па-трэцяе. Аб правілах выбараў дэлегатаў не ведае народ Рэспублікі Беларусь. Між тым, гаворка ідзе аб Кангрэсе народа Беларусі. «Кангрэсмены» могуць узяць сабе і больш гучнае імя — «цвердыя ленінцы» або «прамыя нашчадкі Форда» і г. д., але сэнс слоў не зменіцца: НРБ праводзіць перадвыбарную акцыю і збіраецца гаварыць ад імя народа краіны. Магчыма, гучаць гэта будзе так: «Мы, Кангрэс народа Беларусі, звяртаемся да народа Беларусі...» У такім выпадку лягчэй разабрацца, што было першапачаткова — курыца ці яйка, чым растлумачыць, які народ Беларусі звяртаецца да народа Беларусі. Значна прасцей будзе «кангрэсменам» абвясціць сябе найвышэйшай ступенню народаўладдзя і пачаць уладарыць. Але...

Па-чацвертае. Вышэйшым органам улады з'яўляецца Вярхоўны Савет, які можа гаварыць ад імя народа Беларусі. Здаецца, усе астатнія органы, партыі ды рухі могуць гаварыць толькі ад свайго імя. У іншых выпадках маем справу з самазванцамі або з псіхічна хворымі людзьмі. Бо толькі яны прысвойваюць сабе розныя тытулы ад Юлія Цэзара да сыноў лейтэнанта Шмідта і не рэгіструюцца ў дзяржаўных установах. Таму, думаецца, уладам не шкодна было б паглядзець на законнасць з'яўлення кангрэсменаў, калі толькі не яны самі ініцыіравалі іх з'яўленне. Гайдукевічу і К° так хочацца сказаць: «Хоць вы Цэзарам назавіцеся, але ў абаронцы народа не гадзіцеся».

**Леанід ГАРАВЫ,**
**Гарадок.**

## Шапка не спадабалася

Я рэгулярна чытаю газеты розных палітычных плыняў, але тое, на што натрапіў, уразіла беззмястоўнай прастатой і шчырай непрыязню.

МЫ И ВРЕМЯ №26(71) июль '93г.

**ВСТРЕЧА У ТЕАТРА**

Возвращаясь с работы, встретил около театра им. Я.Купалы З.С. Позняка. На Минск опустился теплый летний вечер, но предводитель БНФ был в кепке. Очевидно, несмотря на публичные оскорбления в адрес В.И. Ленина, Зенон Станиславович стремится тайно подражать большевистскому вождю, хотя бы в манере одеваться.

Ведущий оппозиционер выглядел усталым... Тяжела ты, кепка антикоммуниста.

И. ПЕТРОВ.

Што хацеў сказаць аўтар сваім допісам? Калі адкінуць прымітыўныя кепікі, то сэнс допіса такі:
Я сустрэў З. С. Пазьняка.
З. С. Пазьняк быў у кепцы.
Кепка мне не спадабалася.

**Уладзімір СЛАБІН.**

